*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 19 (231) | 10 траўня —14 чэрвеня 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **11 ЧЭРВЕНЯ Ў НАШАЙ КРАІНЕ АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ Ў ДЭПУТАТЫ МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ УЛАДЫ.**

○ ***ГАРАДСКІ ПАСЁЛАК МІР, ЯКІ ЎПЕРШЫНЮ ЎПАМІНАЕЦЦА Ў ПІСЬМОВЫХ КРЫНІЦАХ У 1395 ГОДЗЕ, УРАЧЫСТА АДЗНАЧЫЎ 500-ГОДДЗЕ МІРСКАГА ЗАМКА.*** *Свята праходзіла пад бел-чырвона-белымі сцягамі.*

○ **ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА ПАЙШОЎ У АДСТАЎКУ З ПАСАДЫ СТАРШЫНІ ПАРТЫІ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ (ПНЗ).** Заяву аб адстаўцы ён зрабіў на пасяджэнні рады ПНЗ, якое адбылося вечарам 5 чэрвеня. Аднак канчатковае рашэнне аб адстаўцы Генадзя Карпенкі прыме IV з'езд партыі, які плануецца правесці не пазней восені.

○ ***У СТАЛІЦЫ РУМЫНІІ АДБЫЛОСЯ ЎРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ*** *Беларускага гандлёвага дома, на якім прысутнічаў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір.*

○ **У ПАСТАВАХ ПРАЙШОЎ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ «ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ І ГАРМОНІК».** У ім удзельнічалі не толькі музычныя і танцавальныя калектывы нашай краіны, але і госці з Расіі, Украіны і Польшчы.

○ ***«ЧАС І МЕСЦА» — ТАК НАЗЫВАЛАСЯ МІЖНАРОДНАЕ ПАЭТЫЧНАЕ СВЯТА,*** *якое адбылося ў Менску. У ім удзельнічалі маладыя паэты Беларусі, Расіі і Славеніі.*

○ **У ЛАТЫШСКІМ ГОРАДЗЕ РЭЗЕНКНЕ ПРАЙШЛІ ДНІ КУЛЬТУРЫ ВІЦЕБСКА.** Вынікам Дзён стала падпісанне дагавора аб культурным і эканамічным супрацоўніцтве паміж гарадамі.

○ ***У БАРЫСАВЕ АДЗНАЧЫЛА*** *свой 75-гадовы юбілей гарадская сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 8.*

○ **У МАСКВЕ РАСПАЧАТЫ ДРУК ГРАШОВЫХ КУПЮР ВАРТАСЦЮ Ў 50 І 100 ТЫСЯЧ БЕЛАРУСКІХ РУБЛЁЎ.** Пра знешні выгляд новых грошай не паведамляецца, але, відаць, яшчэ на іх будзе «Пагоня».

# Да ўсіх арганізацый, першасных суполак, актывістаў ТБМ!

У адным з нумароў газеты «Наша слова» пад рубрыкай «Жыццё Таварыства» надрукавана нататка пра пасяджэнне Сакратарыята ТБМ, на якім абмеркавана пытанне «Аб дзейнасці арганізацый ТБМ ў сувязі з вынікамі рэспубліканскага рэферэндуму па моўным пытанні».

У адпаведнасці з рашэннем Сакратарыята ў гэтым нумары друкуецца тэкст Статута ТБМ, які зацверджаны ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь падчас перарэгістрацыі ТБМ (пасведчанне аб рэгістрацыі ад 23 сакавіка № 0129). Звяртаемся да ўсіх арганізацый, суполак, актывістаў ТБМ, да ўсіх, хто любіць родную мову.

Сітуацыя, якая стварылася пасля рэферэндуму, вымагае ад усіх нас пошуку новых форм і метадаў работы, патрабуе арганізацыйнага ўмацавання шэрагаў прыхільнікаў беларускай мовы, аб'яднання ў гэтых мэтах усіх прагрэсіўных грамадскіх арганізацый, усіх здаровых сіл нашай грамадскасці. Галоўнае тут — захаваць усе інтэлектуальныя і арганізацыйна-метадычныя набыткі, якіх мы дасягнулі за шэсць гадоў існавання ТБМ. Нельга дапусціць, каб новыя ўмовы паўплывалі на змяншэнне актыўнасці ў рабоце першасных суполак і іншых самадзейных аб'яднанняў ТБМ. Трэба паклапаціцца пра іх умацаванне, аднавіць дзейнасць тых, якія перапынілі яе апошнім часам. Заклікаем усімі сродкамі даводзіць да грамадзян Беларусі, што толькі праз нацыянальнае адраджэнне наша Бацькаўшчына можа разлічваць на годнае месца ў свеце.

Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзеючым заканадаўстве, дамагайцеся выканання Закона аб мовах і іншых законаў, якія прыняты Вярхоўным Саветам дзеля ажыццяўлення ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння.

Да 1 верасня неабходна правесці перарэгістрацыю мясцовых арганізацый ТБМ, удакладніць колькасць дзеючых першасных суполак і іншых самадзейных арганізацый ТБМ, колькасць сяброў ТБМ. Да гэтага тэрміну неабходна правесці справаздачна-выбарчыя канферэнцыі раённых, рэгіянальных арганізацый ТБМ, сходы сяброў ТБМ у першасных суполках, на якіх падвесці вынікі работы па выкананні статутных абавязкаў, вызначыць праграму дзейнасці ў сучаснай сітуацыі, якая склалася пасля рэферэндуму, выбраць дэлегатаў на чарговы IV з'езд ТБМ, які адбудзецца 6 кастрычніка сёлета, з разліку два дэлегаты ад раённай арганізацыі, 3—4 ад буйнейшых рэгіянальных арганізацый і па адным ад іншых аб'яднанняў, якія зарэгістраваныя пры арганізацыях ТБМ ва ўстаноўленым парадку. Паклапаціцеся, каб на з'езд трапілі найбольш актыўныя і ініцыятыўныя сябры ТБМ. Пратаколы і адпаведныя дадзеныя з кароткай інфармацыяй аб праведзенай рабоце за справаздачны перыяд, а таксама з прапановамі па ўдасканаленні дзейнасці ТБМ у сучасных умовах даслаць у Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ не пазней 15 верасня.

У матэрыялах перарэгістрацыі абавязкова трэба паведаміць паштовы адрас, а калі ёсць, і тэлефон арганізацый ТБМ, № разліковага рахунку (калі ёсць), прозвішча і імя старшыні Рады, іншыя звесткі, у тым ліку прапановы, якія падаюць актывісты ТБМ для абмеркавання на з'ездзе.

Спадзяёмся, што, выкарыстоўваючы набыты вопыт работы і ўлічваючы новыя абставіны, актывісты мясцовых арганізацый ТБМ знойдуць формы і метады работы, якія будуць адпавядаць сучаснай сітуацыі.

**Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

## З рэдакцыйнай пошты

Прывітанне, «Наша слова»! Піша вам вучань 1 «Г» курса ліцэя № 1 г.Віцебска Мацюшкоў Аляксей. Можа, і са спазненнем, але ўсё ж вырашыў адказаць на пытанні анкеты.

Найлепшыя 10 рубрык «Нашага слова»: 1. Гісторыя Беларусі. 2. ACADEMIA «NS». 3. Вучымся. 4. Вам, школьнікі! 5. Меркаванні. 6. Афарызмы. 7. Пародыі. 8. Культура мовы. 9. Поступ тыдня. 10. Пачутае «У Лявона». Што я хацеў бы прачытаць у «Нашым слове»?

1. Гістарычныя артыкулы. 2. Вершы сучасных паэтаў. 3. Фотаздымкі помнікаў архітэктуры. 4. Праблемы свядомай моладзі.

Хацеў бы бачыць «Наша слова» сапраўдным правадыром у нашым цяжкім жыцці. Таксама чакаю разнастайных конкурсаў для чытачоў. А яшчэ дасылаю вам апошні з маіх вершаў, які напісаны пасля рэферэндуму.

### Эх, конь вараны!

*Падкавалі варанога*
*Маскалёўскаю падковай,*
*Прывязалі ў роўным полі*
*Ланцугом тугім сталёвым.*
*А ён, бедненькі, і рады:*
*Мо, паснедаць зможа смачна.*
*Толькі вось за «пачастункі»*
*Прыдзецца плаціць «удзячна».*
*А плаціць быдлячай працай,*
*Пацягаць жалезны плуг,*
*Ды старацца-выцінацца,*
*Каб не зведаць прысмак пуг.*

**Аляксей МАЦЮШКОЎ.**
г.Віцебск.

**Актуальна!**

# Жанчына загінула: з ёй размаўлялі ў крытычны момант па-расійску

***(Гутарка з псіхатэрапеўтам С.ЯЗЕРСКІМ)***

**— Сяргей Андрэевіч, Вашы публікацыі пра беларускую псіхіятрыю зацікавілі многіх чытачоў. Многія лічаць, што праблема, якую Вы ўзнялі, вельмі надзённая. Яе трэба вырашаць на высокім дзяржаўным узроўні. А тут яшчэ да нас дайшлі звесткі, што нейкая жанчына з няўстойлівай псіхікай скончыла жыццё самагубствам па прычыне непаразумення з псіхіятрамі, якія спрабавалі ёй дапамагчы: яна была беларускамоўнай, а з чалавекам у крытычную хвіліну спрабавалі наладзіць душэўны кантакт на чужой для яе падсвядомасці мове. Вы, канешне, у курсе гэтай справы, то ці не змаглі б патлумачыць больш дакладна, што адбылося?**

— Калі беларус жадае падняцца з каленяў, выйсці з-пад уплыву расійскай гісторыі, культуры, мовы, яго падсцерагае літаральна смяротэльная небяспека. Я ў сваёй працы часта сустракаюся з гэтым. Напрыклад, летась сутыкнуўся з трагедыяй патрыятычна скіраванай дзяўчынкі Таццяны, якая тады завяршала сваё навучанне ў сярэдняй школе. Яна пачала стала ўжываць родную мову і рускамоўнае асяроддзе адгукнулася яе цкаваннем. Узніклі канфлікты з некаторымі настаўнікамі і вучнямі. Гонар за свой народ дазваляў ёй трымацца і не здраджваць сваім перакананням. Але гэтае супрацьстаянне патрабавала вялікіх высілкаў, і дзяўчына пачала стамляцца, у яе збіўся сон. Таму яна і звярнулася да мяне за дапамогай, а пасля добра вытрымала выпускныя іспыты. Новае выпрабаванне дзяўчыны беларусафобамі — парушыла зноў яе душэўны спакой. На адным з уступных іспытаў у ВНУ абітурыентцы «патлумачылі», што яна на сваёй роднай мове «няздольна выказаць нешта вялікае»... Маюцца ўсе падставы меркаваць, што пасля гэтага здарыўся не няшчасны выпадак, а самагубства. Лічбы такіх і іншых «няшчасных выпадкаў» не друкуюцца. Але і колькасць «афіцыйных» самагубстваў штогод значна павялічваецца. Самагубствы літаральна «выйшлі» на вуліцу. У красавіку 1995 года была спроба самаспальвання на плошчы Незалежнасці ў Менску, у траўні пад танк на вуліцы Маскоўскай кінуўся і загінуў чалавек. І не апошняй прычынай самагубства з'яўляецца знявага грамадзянаў, якія размаўляюць на роднай мове, знявага нацыянальнай годнасці. Гэта не толькі псуе настрой. Гэта вялікай сілы стрэс, гэта выклікае неўрозы — з трывогаю, дэпрэсіяй.

**— Мы ведаем, што Вы дамагаецеся, каб псіхалагічныя тэсты былі ў спецыялістаў не толькі на расійскай, але і на беларускай мове. Калі ласка, раскажыце крыху больш падрабязна пра гэта і якія могуць быць перспектывы?**

— Пры дзвюх раўнапраўных дзяржаўных мовах (мне здаецца гэта такой жа бязглуздзіцай, як два раўнапраўныя прэзідэнты ў краіне) дзяржава адмаўляе ў дапамозе беларускамоўным сваім (?!) грамадзянам. Фактычна дзяржава патрабуе адрачыся ад карыстання роднай мовы, бо толькі на расійскай мове можна атрымаць дапамогу на вышэйшым узроўні. Беларускамоўным жа грамадзянам на роднай Беларусі псіхалагічная дапамога аказваецца ў значна меншым аб'ёме, значна менш якасная, чым расійцам, якія жывуць у нашай краіне. Напрыклад, у нас не існуе ніводнага дыягнастычнага тэста на беларускай мове, а гэта замінае выяўленню прыхаванай дэпрэсіі, наяўнасці неасэнсаваных, нявыспелых поцягаў і г.д. Таму немагчымым робіцца прагназаванне,

*(Заканчэнне на с.2.)*




**Малюнак А.Гурскага (Менск).**
Газета «Известия».

*Прэса пасля рэферэндуму*

# Складана быць чэсным журналістам на Беларусі!

Так ужо здарылася, што «Наша слова» патрапіла ў траўні ў даволі крытычную сітуацыю: з прычыны недахопу сродкаў, газета, як і яе «сёстры» — нацыянальныя выданні «Культура» ды «ЛіМ», а таксама яшчэ дзесяткі чатыры друкаваных органаў, «прыпісаных» да выдавецтва «Полымя», не выходзіла.

А тут заканчваецца падпісная кампанія на трэці квартал 1995 года. Як і дзе надрукаваць інфармацыю пра тое, што з намі здарылася, назваць новую падпісную цану, індэкс «Нашага слова»?

Вось і прыйшла ідэя — звярнуцца да калег-журналістаў у масавыя рэспубліканскія газеты — «Звязду», «Народную газету» і менскі гарадскі «Добры вечар».

Справа была пасля таго, як адбыўся сумна вядомы рэферэндум, што высвятляў адносіны зрусіфікаванага насельніцтва Беларусі да роднага слова, сімволікі і іншых пытанняў беларуска-расійскіх дачыненняў. Яго вынікі зараз усім вядомыя. Але пытанне, якое прымусіла нас задумацца, тычылася маральнага, так бы мовіць, фактару: ці здолеюць кіраўнікі названых газет, людзі, за кожным рухам якіх сочаць «наверсе» з асаблівай увагай, дапамагчы «Нашаму слову» — органу ТБМ імя Ф.Скарыны, таварыства, што па сваім статуце павінна абараняць мову карэннай нацыі.

І галоўныя рэдактары «Звязды», «Народнай газеты» і «Добрага вечара» выказалі сваю салідарнасць — надрукавалі такую інфармацыю. Дзякуем за гэта, шаноўныя калегі! Вы працягнулі нам руку ў самы складаны для нас час. І як бы вас ні ламала наменклатура, цяпер лепш ведаем вашы адносіны да беларускай справы. А калі некаму за іншым разам, можа, і даводзіцца крывіць душою, што ж... час настаў не з лепшых. Можна ўспомніць, як вялікі расійскі паэт Мікалай Някрасаў, калі рэдагаваў самы прагрэсіўны часопіс Расіі — «Современник», заігрываў з маючымі ўладу дзеля захавання трыбуны расійскай дэмакратыі, можна ўспомніць «Новый мир» нарэшце і яго рэдактара Твардоўскага

А ўсё ж калі пагартаць апошнія нумары «Добрага вечара», «Звязды» і «Народнай газеты», можна заўважыць — газеты, хай сабе і асцярожна, але працягваюць прапагандаваць беларушчыну.

Хаця, нейкі час здавалася: усё зламалі-такі «Народныя» «вертыкальшчыкі»! Але вось гартаю апошнія нумары траўня — пачатак чэрвеня.

27—29.05.95 (здвоены нумар):

«...Як жа мы існуем? Хто намі кіруе? Прымаюць Закон, што пытанне аб мовах на рэферэндум выносіцца не можа — і самі ж выціраюць ногі аб Закон. За вынясенне некаторых пытанняў на рэферэндум галасуе 124 дэпутаты з 311, 86 з 311 (гл. «Народную газету» за 4 траўня г.г. «Хто за што. Успомнім усіх пайменна») — і «пытанне праходзіць»! Як могуць нашы кіраўнікі, парушаючы законы, змагацца з парушальнікамі законаў?! А мы? Як мы дапусцілі гэта?..» (З ліста «Баліць душа» В.Завадскага, доктара з Барысаўскага раёна).

1.06.95:

«...Праклінаць БНФ няма патрэбы. А вось аналізаваць дзеянні гэтай сілы патрэба ёсць... Я не прызнаю такіх «твораў мастацтва», як сумна знакаміты фільм. Яго стваральнікі хутчэй за ўсё не рэжысёры, а артысты ад неразумнай прапаганды. Але і Фронт прайграў не толькі з-за дрэннага кіно...» («Нас не любяць фанатыкі ўсіх масцей і адценняў. А мы любім усіх, хто нас чытае. «Народная газета» застаецца з народам!», — аўтар — галоўны рэдактар «НГ» Мікалай Галко).

2.06.95:

«...Так блізка наступнага веку
світанне.
А чым ён суцешыць народы
Зямлі?
Надзею? Праўдаю і Пакаяннем,
Каб нашы нашчадкі шчасліва
жылі»

(З верша «Век» Сяргея Грахоўскага).

3—5.06.95:

Анатоль Лябедзька, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

«...Не без злоснай іроніі, але я мяркую, што расійцы павінны былі добра заплаціць за ініцыятыву (рэферэндум. — **А.М.**) Лукашэнкі. Напрыклад, спісаць доўг за энерганосьбіты. У палітыцы нічога не адбываецца проста так... Інтарэсы Расіі відавочныя, нашы дзяржаўныя інтарэсы не праглядваюцца нават і праз павелічальнае шкло» (З падборкі **«Палітыкі каменціруюць вынікі выбараў» журналіста Віктара Харошкі**).

«...Прыйдзе час, настане дзень, і ўсё стане на сваё месца. Абалванены аднабокай прапагандай беларускі народ празрэе і скажа сцвярджальна «так!» гістарычным сімвалам белых русаў! Так! — беларускай мове на Беларусі» (З нататкі «Народ яшчэ адумаецца!» чытача А.Шустоўскага).

Гэта ўсяго выбраныя месцы з апошніх нумароў «НГ». Як бачна, яе калектыў, журналісты, якія на сваёй скуры зведалі «и барский гнев, и барскую любовь», усё роўна змагаюцца за ўсё тое, з чаго складваецца высокае пачуццё і высокае разуменне, імя якому Радзіма. Радасна ўсведамляць, што калектыў «Народнай газеты» пасля адміністратарскага замаху на беларускую дэмакратычную журналістыку не зламаўся, пакрысе вяртаецца да сваіх каранёў — нацыянальнага Адраджэння Беларусі, да напрацаванага вобраза — быць заступніцай беларушчыны.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

***Актуальна!***

# Жанчына загінула: з ёй размаўлялі ў крытычны момант па-расійску

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

папярэджанне рэцыдываў. Міністэрства аховы здароўя зняважліва ставіцца да аўтахтонаў. Маё амаль двухгадовае ліставанне з міністэрствам не дало станоўчых вынікаў. Узнікае пытанне: ці з'яўляецца тады гэтае міністэрства беларускай установай? Застаецца нам толькі пажабрацку працягнуць руку: «Падайце міласціну на выратаванне беларусаў у стане нервовага зрыву? (Для расійскамоўных жыхароў такія грошы ёсць!). Каб зрабіць дыягнастычныя беларускамоўныя псіхалагічныя тэсты, трэба вельмі кваліфікаваныя перакладчыкі з англійскай мовы, якія знаёмыя з беларускай ментальнасцю і здольныя да перакладання прытоенага, захаванага падтэксту, здольныя рабіць адэкватны пераклад словаскладаў (фразеалагізмаў). Потым трэба «давесці» тэсты апрабацыяй на пацыентах з рознымі формамі зрываў, рознымі тыпамі характараў. А гэта справа не энтузіяста-адзіночкі, бо патрэбны клінічныя выпрабаванні, кампутарная апрацоўка вынікаў апрабацыі. Тыя, хто не адрокся ад роднай мовы, маюць права быць роўнымі з рускамоўнымі грамадзянамі.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Закон аб друку: дэнацыянальны аспект

*Гэты матэрыял рыхтаваўся да друку напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет у дапамогу тым кандыдатам, якія рэальна думаюць пра будаўніцтва Беларусі як нацыянальнай суверэннай дзяржавы. Паколькі ўсіх нас чакаюць новыя выбары, тэма артыкула застаецца актуальнай.*

Палеміка, якая вялася на працягу апошніх двух гадоў пра Закон аб друку, што мае адбыцца, і іншых сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь, мела за мэту не толькі вызначыць прававыя дачыненні СМІ да дзяржавы або канкрэтных грамадзян.

Палеміка засталася палемікай, а наш журналісцкі Закон, які, на жаль, быў прыняты ў інтарэсах не творцаў, а кіруючага апарату краіны, не пазбавіўся хібаў. Чытаючы гэты дакумент, проста дзівуешся: гэта ж не Закон, а ўзаконенае сведчанне бяспраўя і сродкаў масавай інфармацыі, і тых, хто там працуе, пачынаючы ад шэраговых карэспандэнтаў і канчаючы галоўнымі рэдактарамі! Гісторы з «белымі плямамі», з гвалтоўным пазбаўленнем сваіх пасад кіраўнікоў масавых газет краіны без уліку меркаванняў працоўных калектываў рэдакцый і нават дэпутацкага корпусу, іншыя факты расправаў з прэсай якраз нагадваюць, чаго вартая прававая база нашай прафесіі, у тым ліку гэты Закон.

Акрамя ўсіх названых хібаў, у памянёнага Закона ёсць яшчэ адзін істотны недахоп: ён не працуе на развіццё беларускага друкаванага слова.

І калі, напрыклад, у праекце дакумента, прынятага пасля **першага чытання Вярхоўным Саветам**, у трэцім артыкуле было сказана наступнае:

**«Дзяржава разглядае сістэму сродкаў масавай інфармацыі як важную састаўную частку нацыянальнай культуры і садзейнічае ўмацаванню творчай, эканамічнай і фінансавай самастойнасці друку, тэлебачання і радыё, у прыватнасці, тых сродкаў масавай інфармацыі, якія актыўна фарміруюць нацыянальную самасвядомасць, узбагачаюць духоўны патэнцыял народа», —**

то ў канчаткова прынятым Законе фразе пра дзяржаўнае садзейнічанне тым СМІ, «якія актыўна фарміруюць нацыянальную самасвядомасць», месца ўжо не знайшлося.

Не ўвайшла ў шосты артыкул і прапанаваная распрацоўшчыкамі фраза з праекта Закона, прынятага ў першым чытанні, адносна таго, што:

**«Сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх з'яўляюцца органы дзяржаўнай улады або кіравання, ажыццяўляюць сваю дзейнасць на беларускай мове».**

Яшчэ б! Камісія ВС Рэспублікі Беларусь замахнулася на «священную корову» — права прадстаўляць у друку інтарэсы дзяржавы на мове «старэйшага брата», якую, дарэчы, ніхто не забараняў як мову міжнацыянальных зносін, мову прыватных выданняў, газет і часопісаў грамадскіх аб'яднанняў і г.д., якой давалася шырокая аператыўная прастора для інфармацыйнай дзейнасці.

Але ж мы — Беларуская дзяржава. І, урэшце, кіраўніцтва краіны на розных сваіх узроўнях павінна спрыяць сталяванню мовы той нацыі, іменем якой і названая гэтая краіна! І калі некаторым палітыкам так дарагое камуністычнае мінулае, хай бы згадалі, як дапамагалі беларускаму друкаванаму слову першыя кіраўнікі БССР у 20-х гадах, калі адносіны да друку не рэгуляваліся хаця якім падзаконным актам, а выключна — пастановамі партыі... І, між іншым, ад беларусізацыі тады не пацярпелі ні расійская, ні татарская, ні габрэйская мовы і культуры: выходзілі на розных мовах газеты, часопісы, працавалі нацыянальныя тэатры і школы.

Але вернемся да сягонняшніх рэалій.

Мяркую, што спачатку дрэнна замаскіраваны, а цяпер ужо адкрыты, наступ на беларушчыну не дазволіў ні ў праекце Закона, ні ў самім Законе распрацаваць артыкул аб недапушчальнасці манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі **«дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі або асобнымі грамадзянамі»**, як пра тое сцверджана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У выніку атрымалася так, што Закон пераўтварыўся ў падзаконны акт, які праігнараваў існаванне Артыкула 33 нашай Канстытуцыі. А вось дазволіўшы сваім восьмым артыкулам **«дзяржаўнаму органу»** быць заснавальнікам або сузаснавальнікам СМІ, Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі проста прафанаваў Канстытуцыю, дапамог усталяваць **у Беларусі такую сістэму** дзяржаўнага кантролю над прэсай ды эфірам, што пад пагрозай апынуліся міжнародныя правы Чалавека і на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі праз друк, радыё і тэлебачанне, і, — уласна, на свабоду слова. Тэхналогія апошніх распраў з газетамі і разгонам няўгодных радыёстанцый — сведчанне таму.

Магчыма, у гэтым артыкуле я і не завастраў бы ўвагу на манапалізацыі кіраўніцкім апаратам СМІ, калі б да праблемы не дапасоўваўся менавіта нацыянальны фактар.

Хто-хто, а беларускамоўныя выданні, якія церпяць ад заганнай антынацыянальнай палітыкі тых, хто мае вышэйшую ўладу ў краіне, ведаюць, як цяжка адраджаць друкаванае роднае слова. Асобнага даследавання, напрыклад, яшчэ чакае перапалка былога кіраўніка грамадска-інфармацыйнага ўпраўлення адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандра Фядуты з беларускамоўнымі выданнямі восенню 1994 года. Тады паважаны калега, надзелены немалой уладай, адмаўляў у дзяржаўнай помачы цэламу шэрагу нацыянальных літаратурных і іншых спецыфічных газет, часопісаў ды бюлетэняў. Перапалка ў выніку падкасіла наклады, каштавала журналістам здароўя. Хаця дапамога дзякуючы намаганням Савета галоўных рэдактараў пры Мінкультдруку, кіраўнікоў гэтага міністэрства ўсё ж паступіла. Канечне ж, — худасочная, канечне ж, такая, што змушае калег працаваць не толькі на асноўных рабочых месцах, але і на паўстаўках у іншых выданнях, браць «падрады» на рэдагаванне «камерцыйных» брашур і кніг. Канечне ж, падобнае фінансаванне не вырашае праблемы сталявання беларускага друку, набыцця ім шырокай аўдыторыі чытачоў.

Нам, журналістам нацыянальных выданняў, трэба шмат працаваць з падпісчыкамі — сустракацца з імі і самім, і арганізоўваць сустрэчы з аўтарамі — пісьменнікамі, мовазнаўцамі, гісторыкамі, этнографамі, артыстамі, палітыкамі, педагогамі. Трэба шмат ездзіць, ладзіць сістэму продажу сваіх газет, сувязі з замежнай дыяспарай у Расіі, ЗША, Канадзе, адпаведна ствараць сетку замежных уласных карэспандэнтаў. Патрэбна спрыянне дзяржавы на больш высокім узроўні зычлівасці, чым такое ёсць сёння.

Але зычлівасці няма. І гэта відаць з таго, што, напрыклад, праект пастановы ўрада «Аб дзяржаўнай падтрымцы перыядычнага друку ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі», распрацаваны ў першай палове 1994 г. названым Саветам галоўных рэдактараў і разгледжаны калегіяй нашага міністэрства, так і застаўся ўсяго праектам.

Чаму? Таму, што туды ўносіліся вельмі канкрэтныя прапановы: стварыць на базе выдавецтва «Беларускі Дом друку» з яго паліграфічнымі магутнасцямі ды іншымі матэрыяльна-тэхнічнымі сродкамі акцыянернае газетна-часопіснае выдавецтва «Перыёдыка», у каторым, між іншым, была б прадстаўлена і дзяржава; для ліквідацыі залежнасці рэспублікі ад імпарту паперы і дэфіцытных паліграфічных матэрыялаў, забеспячэння рэгулярнага выпуску выданняў і стабільнай работы калектываў рэдакцый ды паліграфічных прадпрыемстваў журналісты прасілі нашыя тэхнічныя праблемы вырашаць і праз канверсійныя працэсы ВПК; і праз змяншэнне ў 1995—1996 гг. падаткаў на дабаўленую вартасць да 3-х працэнтаў на выданне, распаўсюджванне і дастаўку газет і часопісаў, выпуск якіх фінансуецца з бюджэту (пры такім парадку яны здолелі б 70 працэнтаў вызваленых сродкаў накіраваць на набыццё новай тэхнікі і абсталявання, сацыяльнае развіццё калектываў); і праз адпаведны парадак фарміравання валютных фондаў; і праз іншыя арганізацыйныя захады.

Савету галоўных рэдактараў казалі: не аддасць вам урад Дом друку, хаця сто праектаў напішыце! Не захоча страціць манаполію...

І сапраўды: Канстытуцыю дэпутаты прынялі з адпаведным артыкулам, а як была манапалізаваная дзяржавай паліграфічная база пры Саўміне, такой яна засталася і пры адміністрацыі Прэзідэнта. І прапановы журналістаў на выйсце з праблемы фінансавання беларускамоўных выданняў аказаліся не патрэбныя дзяржаве.

Вось чаму я звяртаюся да народных дэпутатаў Беларусі, якія ўвойдуць у Вярхоўны Савет будучага склікання: перагледзіце Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, каб гэта быў дакумент, які абараняў бы і прафесійныя правы журналістаў, і беларускае слова.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, сустаршыня Асацыяцыі свабодных СМІ пры Беларускай лізе правоў чалавека, рэдактар грамадска-культурнага аддзела «Нашага слова».**

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

Галоўнае ўпраўленне каардынацыі міжнароднага супрацоўніцтва Міністэрства адукацыі РБ працягвае зацікаўленую працу па выкананні Дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў свеце», аказваючы канкрэтную дапамогу беларускім суполкам і навучальным установам краін СНД, Балтыі і Польшчы.

У мінулым годзе за мяжу было адпраўлена звыш 6600 асобнікаў падручнікаў і дапаможнікаў дзіцячай мастацкай літаратуры.

Праводзілася падпіска за мяжу беларускіх перыядычных выданняў у колькасці 11 найменняў («Настаўніцкая газета», «Адукацыя і выхаванне», «Літаратура і мастацтва», «Пачатковая школа», «Роднае слова» і інш.).

У 1994 годзе прыняты на вучобу ў ВНУ Беларусі на льготных умовах 31 выпускнік беларускіх ліцэяў з Беласточчыны (Польшча).

20 настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з Польшчы, Расіі, Летувы і Эстоніі ў ліпені 1994 года займаліся на 10-дзённых курсах павышэння кваліфікацыі. У прадметнай алімпіядзе па беларускай мове ў г.Магілёве ўзялі ўдзел 6 навучэнцаў ліцэяў у Гайнаўцы і Бельску-Падляскім Рэспублікі Польшча.

Летась у траўні для дзяцей і настаўнікаў з Беласточчыны былі арганізаваны экскурсіі працягам 5 дзён па Гродзенскай вобласці і г.Менску.

43 вучні з беларускай школы Вільні (Летува) знаходзіліся з 6 па 30 чэрвеня на адпачынку ў беларускім летніку «Маяк».

3—4 красавіка ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце прайшла міжнародная канферэнцыя па тэме: «Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць і перспектывы». У ёй узялі ўдзел прафесар Кембрыджскага універсітэта В.Туласевіч (Вялікабрытанія), доктар лінгвістыкі, прафесар Парыжскага універсітэта Д.Манэс (Францыя), доктар Дуйсбургскага універсітэта Б.Бартц (Германія), доктар філасофіі універсітэта імя П.Шафарыка Л.Харбулёва (Славакія), член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук У.Еўтух.

Для абмеркавання і аналітычнага абагульнення было вынесена шырокае кола праблем па парадыгме адукацыі ў сучасным свеце, гісторыі і развіцці беларускай нацыянальнай школы, па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя ў навучальных установах па шляхах задавальнення адукацыйных патрэб этнічных меншасцей і беларускай дыяспары, якія заяўлены ў звыш 100 дакладах беларускіх і замежных вучоных педагогаў.

## Навіны Нацыянальнай бібліятэкі

# Ад Шэкспіра да Радзівіла Чорнага

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі выстава «Гімн каханню, якое перамагае смерць...», прысвечаная 400-годдзю выхаду ў свет трагедыі Шэкспіра «Рамэо і Джульета». Экспазіцыю складаюць 155 выданняў, рэпрадукцыі, плакаты, дыскі з запісамі музыкі да аднайменнага балета ў выкананні розных сімфанічных аркестраў. Сярод выданняў на нямецкай, польскай, беларускай, французскай і нават венгерскай мовах шырэй за ўсё прадстаўлены англійскія (старое і новае оксфардскія выданні; фундаментальны гарвардскі шэкспіраўскі даведнік і інш.) і расійскія (поўны збор твораў у 8-мі тамах 1937 года выдавецтва «Akademia»; санкт-пецярбургскае выданне Бракгауза—Ефрона 1902 года і інш.). Прысутнічаюць шматлікія выданні XIX ст., а таксама каштоўныя ілюстраваныя выданні пачатку і сярэдзіны XX стагоддзя. Беларускі варыянт «Рамэо і Джульеты» — пераклад Кандрата Крапівы — выдадзены ў серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» (ёсць таксама і ранейшае выданне 1954 года).

Выстава знаёміць чытачоў не толькі з гісторыяй выдання трагедыі, але і з гісторыяй стварэння і пастаноўкі аднайменнага балета на музыку С.Пракоф'ева, які шмат гадоў уваходзіць у рэпертуар Беларускага опернага тэатра ў пастаноўцы В.Елізар'ева, добра вядомы далёка за межамі нашай краіны.

Цяперашняя выстава — ужо другая. Летась наладзілі выставу «Заўсёды сучаснік: да 430-годдзя з дня нараджэння У.Шэкспіра», на якой больш поўна былі прадстаўлены розныя творы аўтара з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі.

Колькі слоў пра іншыя выставы. Побач з шэкспіраўскай на другім паверсе праводзіцца маляўнічая выстава новых паступленняў замежнай літаратуры «Кнігі аб дзецях і для дзяцей», адкрыццё якой было прымеркавана да юбілею Г.-Х.Андэрсэна (1805—1875) — дня, які па традыцыі лічыцца Міжнародным днём дзіцячай кнігі.

Выстава з серыі «Буйнейшыя прадстаўнікі асветніцтва Беларусі», прысвечаная Мікалаю Радзівілу Чорнаму (1516—1565), змяніцца экспазіцыяй да 50-годдзя перамогі над фашызмам.

**Ала ЗМІЁВА.**

## Меркаванні

# Беларускія кнігі чытаюць. А якія?

***Сёння мова беларусаў усё часцей гучыць у сям'і і на вуліцы, з парламенцкіх трыбун і экранаў тэлевізараў. Здавалася б, адным з вынікаў гэтага мусіць стаць павелічэнне попыту на беларускія кнігі. Але хай нават камусьці гэта падасца дзіўным, паліцы кнігарняў па ўсёй краіне літаральна завалены беларускамоўнай літаратурай, не маючай збыту. Чым гэта выклікана — праблемамі нацыянальнай кнігавыдавецкай справы альбо станам нацыянальнага жыцця? Каб атрымаць адказ на гэта пытанне, карэспандэнт «Нашага слова» У.Панада звярнуўся да Мікалая КУСЯНКОВА, галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».***

**— Ад работнікаў кнігарняў я даведаўся — беларускія кнігі не купляюць. Што стала таму прычынай?**

— Я ўжо чуў пра гэта, але адказваць на пытанне павінен не я адзін. Тым не менш, скажу: на гэта ёсць свае прычыны — гістарычныя, эканамічныя, сацыяльныя, нават псіхалагічныя. Назаву толькі адну з іх: сёння, калі ў краіне стварыўся кніжны рынак, на паліцах кнігарняў з'явіліся сотні і тысячы выданняў аўтараў, якія дагэтуль з тых ці іншых прычын у нас не выдаваліся. І гэтая новая літаратура стварае вельмі значную канкурэнцыю творам беларускіх пісьменнікаў — як сучасных, так і ранейшага часу. Масавая культура стварае канкурэнцыю сапраўднай.

**— Значыць, менавіта да сапраўднай літаратуры належаць творы беларускіх пісьменнікаў?**

— Я не пабаюся сказаць, што сёння мы выдаём кнігі, якія адносяцца да высокай літаратуры. Патлумачу: выдавецтвы не ствараюць яе. Мы ўводзім у культурны ўжытак набыткі нашай літаратуры не аднаго мінулага стагоддзя, а таксама сучасныя. А ўяўленне пра нас як пра ўстанову, якая арганізуе літаратурны працэс, — спадчына часу, калі пісьменніцтва было пастаўлена на службу ідэалогіі і кнігі выдаваліся, зыходзячы з ідэалагічнай патрэбы.

У кожнага чытача ёсць уласныя меркаванні: гэты пісьменнік добры, а гэты кепскі, адзін адраджэнец, а другі кансерватар... Мы выдаём усіх. Ужо потым чытачы, крытыкі, гісторыкі літаратуры хай робяць свае высновы, займаюцца класіфікацыяй і аналізам. А наша справа — не фармаванне літаратараў, а адкрыццё ім дарогі. Таму штогод мы выдаём больш за дзесятак кніг аўтараў-пачаткоўцаў.

**— Вызначаючы сваіх аўтараў, выдавецтва карыстаецца моўнымі ці нейкімі іншымі крытэрыямі?**

— Мы ўлічваем выключна мастацкія вартасці кніг, а не іх мову. Так, у серыях «Першая кніга празаіка» ды «Першая кніга паэта» друкуюцца як беларускамоўныя, так і расійскамоўныя аўтары.

Увогуле, наша задача — даць магчымасць сапраўднаму літаратару надрукавацца. А які ён пісьменнік, больш дакладна хай вырашаюць чытачы. Пакуль наша дзяржава праводзіць адраджэнскую палітыку, мы, кнігавыдаўцы, з'яўляемся тым яе інструментам, які ажыццяўляе гэтую палітыку ў сферы культуры і кнігавыдання. Напрыклад, у мінулым годзе мы выдалі «Кнігу жыццяў і хаджэнняў», з'яўленне якой дзесяць гадоў таму было абсалютна немагчымым. У канцы 1994 года ў серыі «Спадчына» выйшла кніга Язэпа Лёсіка — выдатнага дзеяча нашага нацыянальнага адраджэння. Выдадзена «У капцюрох ГПУ» Ф.Аляхновіча, кнігі іншых яшчэ нядаўна забароненых аўтараў.

Тое ж можна сказаць і пра серыю «Скарбы сусветнай літаратуры». Выйшла ўжо каля 20 кніг, рыхтуюцца новыя. І гэтую справу я лічу вельмі важнай. Бо ў час, калі працягваюцца напады на нашу мову, мы, выдаючы па-беларуску лепшыя творы сусветнай літаратуры, дэманструем гэтым, што наша мова жыве і з'яўляецца не менш багатай стылёва і лексічна, чым якая іншая развітая мова.

**— Даводзілася чуць шмат нараканняў на якасць перакладаў асобных кніг гэтай серыі...**

— Пачынаючы такую складаную справу, як масавы пераклад замежнай літаратуры, памылкі непазбежныя. Да таго ж не існуе нейкіх адзіных крытэрыяў вызначэння якасці перакладу.

**— Хіба што адпаведнасць яго моўным нормам?**

— Не, тут не толькі гэта. Трэба пачынаць ажно з самой тэорыі перакладу. Сёння з'яўляюцца новыя, маладыя перакладчыкі, якія, спадзяюся, прадоўжаць справу сваіх лепшых папярэднікаў.

**— Кнігі большасці беларускіх аўтараў не маюць камерцыйнага поспеху. У той жа час кніжны гандаль прапануе вялікі выбар кніг папулярных аўтараў, выдадзеных па-расійску...**

— Адны пісьменнікі імкнуцца захаваць беларускую літаратуру ў тым выглядзе, які яна набыла на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Другія імкнуцца надаць ёй больш сучаснае аблічча. Але я, як чытач, бачу, што і тыя, і іншыя часам ствараюць творы другаснага, паўтарачага класіку: нехта — Мележа, а нехта — Джойса. І гэта не спрыяе папулярнасці твораў ні тых, ні другіх. І зусім іншая рэч, калі ў традыцыйнай ці сучаснай манеры напісана кніга, аўтар якой адкрывае нешта новае. Такім чынам, гаварыць аб канкурэнцыі лепшых кніг беларускіх пісьменнікаў з кнігамі папулярных аўтараў немагчыма. Мяркую, што праблему гэтую вырашыць час — бліжэйшы ці больш далёкі.

**— Ці можаце Вы назваць, як суадносіцца паміж сабой агульныя наклады выдаваных «Мастацкай літаратурай» беларуска- і расійскамоўных кніг?**

— Магу сказаць з пэўнасцю: мы не зменшылі агульнай колькасці выданых кніг, а лічба беларускамоўных нават павялічылася.

**— Гэта датычыць агульнага накладу ці колькасці назваў?**

— Наклады кніг, асабліва апошнім часам, зменшыліся папросту катастрафічна. Гэта — сур'ёзная праблема. Наклад выдання залежыць ад велічыні заказу на яго з боку кнігагандлёвых арганізацый. А попыт на літаратуру, нават камерцыйную, падае. У яшчэ большай ступені гэта датычыць беларускай мастацкай літаратуры. Таму сёння наш прынцып — выданне кніг сучасных беларускіх аўтараў хай сабе і малымі накладамі, нават 300 ці 500 асобнікаў. Кніга, якая ўбачыла свет, непазбежна робіцца часткай гісторыі літаратуры і культуры. Гэта — частка працэсу нашага нацыянальнага адраджэння. Калі гаварыць аб агульным накладзе, дык у расійскамоўнай літаратуры ён значна вышэйшы. Але нават гэта не дазваляе нам палепшыць сваё эканамічнае становішча. Сёння мы наблізіліся да фінансава-эканамічнага крызісу.

**— Што, на Ваш погляд, стала прычынай гэтага?**

— Каб мець магчымасць выдаваць пэўную колькасць кніг беларускіх аўтараў, «Мастацкая літаратура» — беларускае дзяржаўнае выдавецтва — змушана значную частку кніг прызначаць для так званага расійскамоўнага чытача, бо гэта забяспечыць ім лепшы збыт. Але сёння і попыт на расійскамоўную кнігу падае. Тое, што ва ўмовах рынку выданне адной толькі беларускай літаратуры аказалася стратным, адлюстроўвае цяперашняй моўнай сітуацыі. Становішча беларускай мовы адлюстроўвае становішча беларускай кнігі. А прычыны гэтага вядомыя ўсім — не буду паўтараца. Выправіць гэтую сітуацыю — справа ўсяго грамадства, у тым ліку і наша. Тая сістэма, дзейнасць якой стала прычынай занепаду нашай нацыі і культуры, сышла з гістарычнай арэны, а сённяшні наш урад павінен узяць на сябе адказнасць за аднаўленне ранейшых пазіцый нашай мовы і народа — яе носьбіта.

Беларускія кнігі сёння чытаюць. А наша справа — друкаваць іх.

***Сваімі меркаваннямі аб становішчы беларускай кнігі з нашым карэспандэнтам падзялілася Эма ПІЧУГІНА, дырэктар Цэнтральнай кнігарні Менска.***

— Чаго нам бракуе? Найперш, выданняў класікаў. Няма Купалы, Коласа, Мележа, Багдановіча, нягледзячы на цікаўнасць да іх чытачоў. Практычна няма дзіцячай літаратуры — цікавых, прыгожа аздобленых кніг. Гэта, падкрэслю, датычыць беларускай літаратуры, бо па-расійску мы маем яе дастаткова, выдадзенай і ў Расіі, і тут. У поўнай ступені гэта датычыць і так званай камерцыйнай літаратуры — фантастычнай, дэтэктыўнай, прыгодніцкай...

З тых беларускіх выданняў, што ёсць у продажы, найбольшы попыт маюць энцыклапедычныя, даведачныя, гістарычныя, мастацкія. Амаль не прадаецца сучасная паэзія, хаця мы маем вялікі выбар кніг розных аўтараў. Таму сёння кошт беларускамоўных выданняў

(Працяг на с.4.)

Вам, школьнікі!

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

## Сусветная літаратура ў школе

**IX клас**

## Уільям Фолкнер (1897—1962)

# Пах вербены

*(Урыўкі)*

*(Працяг.)*

Таму я нічога яму не сказаў. Я толькі пацiснуў яму руку і гэтаксама сеў у сядло, Рынга і я рушылі ў дарогу. Нам не трэба было цяпер ужо ехаць праз Оксфард, таму неўзабаве дарога на Джэферсан лягла перад намі (а вузкі серп месяца быў нібыта след чалавечай пяткі на мокрым пяску), дарога, па якой я ўпершыню праехаў тры гады таму разам з бацькам, а на Каляды ехаў ужо самотны туды і назад; потым у чэрвені і кастрычніку; і так кожны год — на Каляды, у чэрвені і кастрычніку — ездзіў самотны па гэтай дарозе, нават не падазраваючы, што вось гэта і ёсць мір і спакой, і зараз зноў еду па ёй, і хоць застануся жыць (гэта я ведаў), але апошні раз еду з высока ўзнятай галавой. Коні перайшлі на мерную рысь і будуць трымаць гэты тэмп да самага канца. Мая кабылка добра ўжо ведала гэтую дарогу, у Рынга таксама быў неблагі конь, якога ён здолеў-такі выпрасіць на стайні ў Хільярда. Магчыма, падзейнічалі сляды слёз на запалых шчоках — палосы засохлай гразі пад чырвонымі стомленымі вачамі; але хутчэй за ўсё зноў выявілася ягоная здольнасць, якая дазваляла яму падчас вайны фабрыкаваць фальшывыя дакументы, па якіх ён і бабуля атрымоўвалі мулаў і перапрадавалі іх арміі Злучаных Штатаў Амерыкі, — нейкая дзёрзкая ўпэўненасць у сабе, у сваіх сілах і здольнасцях, якую ён набыў надта доўгімі і цеснымі сувязямі з белымі — з той, каго ён называў бабуляй, і з сваім аднагодкам, з якім разам спаў з самага нараджэння і ажно да таго часу, як бацька адбудаваў новы дом на месцы спаленага. Увесь шлях дадому мы прарабілі моўчкі, і толькі аднойчы перакінуліся словамі.

— Мы маглі б застрэліць яго, як калісьці Грамбі, памятаеш? — прапанаваў ён. — Ці, можа, гэта не прыдатна для вашай далікатнай белай скуры?

— Не, — адказаў я.

Да самага дому больш мы з ім ні пра што не гаварылі. Быў кастрычнік, і яшчэ шмат заставалася часу, каб цвіла вербена, хоць толькі прыехаўшы дадому, я зразумеў, якая мне ад яе карысць, — вербена ўсё яшчэ квітнела ў нашым садзе, дзе цётка Джэні ў старых бацькавых кавалерыйскіх рукавіцах корпалася разам са старым Джобі на клапатліва апрацаваных клумбах сярод кветак з мудрагелістымі старасвецкімі назвамі ; і хоць ужо наступіў кастрычнік, але яшчэ не пайшлі дажджы і не было яшчэ замаразкаў, якія пакідалі пасля сябе паўцёплыя, паўхалодныя ночы бабінага лета: у дрымотным паветры прахалода і чаканне чародаў гусей, але яшчэ трымаецца летні гарачы пыльны пах вінаграду і лаўра — вось у такія ночы мы з Рынгам калісьці, пакуль я не паехаў у каледж вывучаць права, палявалі на апосумаў з ліхтаром, сякерай, мехам і шасцю сабакамі (адзін дзеля справы, а іншыя для брэху) на выгане, дзе аднойчы мы з сваёй засады ўбачылі афіцэра-янкі на буланым кані і дзе вось ужо год як чуліся свісткі паравозаў, якія даўно ўжо не належаць містэру Рэдманду; а ў нейкае імгненне сёння зранку і бацька выпусціў іх з рук, нібыта запаленую люльку, якую, па словах Рынга, ён упусціў, калі падаў на зямлю. Мы набліжаліся да дома, дзе ён ляжыць у зале ва ўрачыстым ззянні люстраў і кандэлябраў, апрануты ў палкоўнічую форму (пры шаблі таксама), і дзе мяне чакала Друзіла ў жоўтай бальнай сукні з галінкаю вербены ў валасах, трыма-ючы ў абедзвюх руках па пісталету (Я бачыў усё гэта нібыта наяве, хоць я не веру ні ў якія прадчуванні, я здольны быў уявіць сабе яе, ва ўрачыстай зале, прыбранай для пахавання, невысокую, не зграбную, як звычайна выглядаюць прыгожыя жанчыны, а яна ўяўлялася мне як юнак, хлапчук, нерухомая, у жоўтым адзенні, з спакойным тварам, крыху збянтэжаная, са строгай і простай прычоскаю, у валасах трымцяць па галінцы вербены над кожным вухам, рукі сагнутыя ў локцях, на ўзнятых на вышыню плеч руках па аднолькавым дуэльным пісталеце — строгая жрыца рытуальнай помсты з грэчаскай амфары). (...)

## II

(...) Мы з Друзілай павольна прагульваліся паміж клумбаў (...)

— Найвышэйшая мара была ў палкоўніка Сатпэна, — азваўся я.

Сатпэн быў намеснікам бацькі ў першым пяхотным палку; яго абралі палкоўнікам, калі полк зняў бацьку з пасады камандзіра, і гэтай абразы бацька ніколі не дараваў Сатпэну, які быў грубым, жорсткім і бессардэчным чалавекам і прыехаў да нас у акругу гадоў за трыццаць да вайны, і ніхто не ведаў — адкуль ён родам. Баіцца прызнацца, растлумачыў бацька, па выглядзе можна бачыць, што гэта за бандзюга. Невядома таксама, як ён набыў сабе зямлю, хоць грошы ў яго вадзіліся, адкуль ён іх браў — таксама невядома: бацька казаў, што той здабываў іх махлярствам, гуляючы ў карты на параходах, ці проста займаўся разбоем. Сатпэн пабудаваў вялікі дом, ажаніўся і зажыў джэнтльменам. Потым, як і ўсе іншыя, ён усё страціў падчас вайны, у тым ліку і адзінага сына (той знік, застрэліўшы жаніха сваёй сястры напярэдадні вяселля), аднак Сатпэн вярнуўся на сваю сядзібу і адзін пачаў аднаўляць разбуранае. Сяброў у яго не было, і пазычыць грошы ні ў кога ён не мог, спадкаемца, каму пакінуць зямлю, у яго таксама не было, Сатпэну ішоў ужо сёмы дзесятак, і ўсё-такі ён узяўся за аднаўленне плантацыі. Казалі, нібыта ён ні пра што больш не думаў і не ўлазіў у палітыку, і калі бацька з іншымі пачаў ствараць тайныя групы для барацьбы з «сакваяжнікамі», якія падбухторвалі неграў бунтаваць, ён адмовіўся ўдзельнічаць у гэтай справе. Нягледзячы на іх варожыя адносіны, бацька сам паехаў да яго, але Сатпэн сустрэў яго на парозе з лямпай у руках і нават не запрасіў у дом і адмовіўся весці перамовы. На пытанне бацькі: «З намі вы ці супраць нас?» — ён адказаў: «Я за сваю зямлю. Калі б кожны з вас заняўся сваёй зямлёй, краіна ад гэтага толькі б выйграла». Тады бацька прапанаваў яму сысці з ганка і паставіць лямпу на пень, каб ім абодвум было відаць, як страляць, але Сатпэн адмовіўся.

— Ніхто не мае вышэйшай мары за палкоўніка Сатпэна.

— Ты маеш рацыю, але ж ён заклапочаны толькі сабой. Не тое што Джон, які марыць усю нашу краіну зрабіць квітнеючай і шчаслівай: каб не толькі яго сваякі ці аднапалчане, а ўсе людзі — белыя і чорныя, жанчыны і дзеці ў горных хацінах, у каго нават няма чаго надзець на ногі... Разумееш?

— Аднак жа якая карысць ад усіх яго задум тым, хто... Ён жа...

— Забіў некалькі з іх? Ты, відаць, маеш на ўвазе і двух «сакваяжнікаў», якіх ён забіў падчас першых выбараў?

— Яны былі людзі. Жывыя людзі. Чалавечыя істоты.

— Яны былі з Поўначы, чужынцы, якім тут не месца. Яны былі рабаўнікамі.

Мы прагульваліся, яна амаль няўлоўна абапіралася на маю руку, яе галава ледзьве даходзіла мне да пляча. Я заўсёды быў вышэйшы за яе, нават у тую ноч у Хоксерсце, калі мы слухалі, як негры ідуць па дарозе, а з таго часу яна амаль не змянілася — тое самае тугое і зграбнае цела (не па-жаночаму, а пахлапечаму), і галава гэтаксама коратка абстрыжаная, гэтаксама неўтаймавана ўзнятая ўгору, як тады, сярод звар'яцелага натоўпу неграў, у якім наша павозка спускалася да ракі.

— Мара — рэч небяспечная, Баярд. І ў мяне некалі была свая мара. Яна — як зараджаны рэвальвер на баявым узводзе: рана ці позна абавязкова выстраліць і ў каго-небудзь патрапіць. Але сапраўдная мара вартая такой рызыкі. У свеце мала сапраўдных мараў, а народу зашмат. Адным тузінам меней...

—*Якая розніца?*

— Так, якая розніца. Чуеш? Гэта Юпітэр. Ну, хто хутчэй дабяжыць! (...)

## IV

Неўзабаве казадоі змоўклі, і я пачуў першую дзённую птушку — перасмешніка. Ён спяваў усю ноч, але цяпер гэта была дзённая песня, а не паўсонны, дрымотны, лунатычны свіст. Потым падалі голас астатнія — зацвыркалі вераб'і каля стайні, заспяваў сваю ранішнюю песню дрозд, які жыў у садзе цёткі Джэні; я пачуў перапёлку з выгану — і ў пакоі пачало віднець. Але я не адразу падняўся. Я ляжаў на пасцелі (я не распранаўся), сашчапіўшы рукі за галавою, адчуваючы слабы пах вербены, які сыходзіў ад кінутага на крэсле сурдута, і пазіраў, як разліваецца па пакоі святло, паступова ружавеючы ад сонца. Крыху пазней прайшла праз двор Лувінія, рыпнула кухоннымі дзвярыма, загрымела дровамі, зваленымі ў скрынку каля пліты. Хутка пачнуць з'язджацца цераз браму брычкі і экіпажы, але не цяпер, пазней, — спярша яшчэ яны пабачаць, што я збіраюся рабіць. Калі я спусціўся ў сталовую, у доме было яшчэ ціха, не чутно ні гуку; толькі Сайман хроп у зале, дзе ён, відаць, па-ранейшаму сядзеў на табурэце, — я туды не зазірнуў. Крыху пастаяўшы каля вакна ў сталовай, я выпіў кубачак кавы, які прынесла Лувінія, і напрасткі пайшоў у стайню. Джобі назіраў, як я іду па двары; у стайні ўзняў вочы Люш, які чысціў Бэтсі скрабніцай, але Рынга не глянуў ні разу. Мы пачалі чысціць Юпітэра. Я не ведаў, ці дазволіць ён падысці да яго: бацька, бывала, заўсёды спачатку наблізіцца да яго, пагладзіць, загадае стаяць нерухома, і той паслухмяна стаіць, нібы з мармуру высечаны (дакладней, адліты з бледнай бронзы), пакуль Люш яго чысціць. Але конь мяне паслухаўся і хоць неспакойна, але выстаяў. Калі мы скончылі, было ўжо амаль дзевяць; хутка яны пачнуць з'язджацца, і я загадаў Рынгу падаць Бэтсі да ганка дома.

*(Працяг будзе.)*

# Цары, паэты, вучоныя... Бог?

Многія, відаць, заўважылі, а некаторыя і набылі ў кнігарнях шыкоўнае выданне — энцыклапедыю для дзяцей «Вялікія і славутыя старажытнага свету». Аўтар энцыклапедыі — Уладзімір Бутрамееў. У кнізе расказваецца пра «славутых асоб старажытнасці — цароў і палкаводцаў, філосафаў і гісторыкаў, паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў і вучоных. Месца іх жыцця і дзейнасці — старажытныя Грэцыя і Рым, Егіпет, Вавілон, Асірыя, Кітай і інш.» — так паведамляе анатацыя. Сапраўды, маем справу са спробаю «объять необъятное». Можна толькі ўявіць пакуты аўтара, якому належала выбраць з усёй гісторыі чалавечай цывілізацыі на працягу некалькіх тысячагоддзяў толькі пэўную колькасць асобаў. Як ні круці, усё роўна ўсіх вартых не ўцісьнеш пад вокладку аднаго выдання. Можна прадбачыць і тое, што ў многіх скептычна настроеных чытачоў узнікнуць прэтэнзіі да аўтара: чаму няма гэтага ці таго гістарычнага дзеяча? Чаму няма экскурсаў у гісторыю той ці іншай краіны? Але — паўторымся — задача, пастаўленая перад шаноўным аўтарам, ужо першасна заключала ў сабе недасканаласць вынікаў. Ну вось, напрыклад, уся гісторыя старажытнага Егіпта прадстаўлена пяццю імёнамі — Хеопса, Ф іліціс, Эхнатона, Неферціці і Тутанхамона. А ў адзіным артыкуле пра яўрэйскую дзяржаву аб'яднаны імёны Майсея, Давіда, Саламона і Ісуса Хрыста. Прычым, пра апошняга гаворыцца не як пра рэальную асобу, тым больш пра Госпада, а як пра героя літаратурнага помніка: «...усям'і простага цесляра нарадзіўся сын — Ісус Хрыстос. Хрыстос узяў на сябе грахі ўсіх людзей, яго распялі на крыжы, і ён памёр пакутніцкай смерцю, збавіўшыся гэтым ад усіх *сваіх*(!) грахоў. Але потым ён уваскрэс і ўзнёсся ў неба». Далей — некалькімі радкамі — што людзі паверылі ў Ісуса Хрыста і яго пропаведзь дабра, а Евангелле — кніга, якая «кліча да міру і *лепшага жыцця* (!)». Па-першае, калі ўжо ўключаць у кнігу пра вялікіх і славутых *людзей* свету звесткі пра Таго, Хто ўсімі хрысціянамі лічыцца Богам, Сынам Божым, дык трэба было або весці гаворку аб ім у асобным артыкуле і не такой «хуткагаворкай», або не рабіць гэтага зусім. Існуе дастаткова рэлігійнай літаратуры для дзяцей, у якой расказваецца пра зямное жыццё Госпада нашага кампетэнтна і згодна канонам веры. А так аўтар энцыклапедыі робіць адно блюзнерства за другім. Каму з вернікаў не вядома, што Ісус Хрыстос быў безгрэшны і не мог мець сваіх грахоў. І смерць пакутніцкую прыняў Ён не для таго, каб ад грахоў збавіцца, а каб збавіць ад іх усіх нас. Эрнэст Рэнан спрабаваў пісаць пра Хрыста як пра асобу рэальную, зямнога паходжання, але ў такім выпадку ён не пісаў, што Хрыстос уваскрэс. Леа Таксіль увогуле адмаўляў рэальнае існаванне Хрыста, але ў такім выпадку ён не стаў бы змяшчаць яго імя сярод імёнаў «рэальных». А ў нашым выпадку маецца нейкі сінтэз атэізму, рацыяналізму да пачаткаў рэлігійных ведаў.

Не, з імёнамі, звязанымі з рэлігійнымі канфесіямі, аўтару лепш было б не звязвацца. Бо як зрэагуюць вернікі на тое, што Мухамед, заснавальнік іслама, аб'яднаны ў адным артыкуле з хрысціянскім святым Дыянісіем, і адзін артыкул на дваіх падзяляюць Буда і Канфуцый, у той час як Спартаку пашанцавала на асобны артыкул?

Але — пакінем рэзанёрства. Падзякуем спадару Бутрамееву за выданне і сапраўды вялікую працу.

**Л.Ш.**

# Святочны каляндар беларусаў



# «Чэрвень з касою па лузе прайшоў»

Першы месяц лета, адзін дзень якога год корміць. Мае трыццаць дзён, адзін з якіх, самы доўгі, 17 гадзін (22 чэрвеня), і адпаведную яму самую кароткую ноч. Гэта астранамічны сонцаварот, калі сонца мае пры ўсходзе самы востры вугал да зямлі, пра што ў песнях спяваецца як пра «ігру сонца». Прыказка «Прывядзе чэрвень на работу, адаб'е ад песень ахвоту» мае іранічна-жартоўны сэнс, бо песень у чэрвені спявалі больш чым калі — на Ушэсце, Сёмуху, Ваджэнне куста і іншыя святы.

У чэрвені «Вэраб'і б'юцца, а мурашкі поўзаюць да добрага надвор'я», «Чэрвень сена косіць, збажыну люляе», «Травень — радасць, а чэрвень — шчасце», «Калі пчолы моцна гудуць — да добрага надвор'я», «Калі каровы моцна равуць, будзе дождж». Час пасля сонцавароту адзначаны прыкметай: «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток», таму «Касі каса, пакуль раса, пакуль луг не адкрасуе», бо «Да Пятра высушыш сена і пад кустом, а на Пятра не сохне і на кусце».

**1** (чацвер). **Прав.** *Узнясенне Гасподняе, Ушэсце (Ушэснік, Шоснік).* Адзначаецца на саракавы дзень пасля Уваскрэсення Гасподняга (Вялікадня).

**Народны каляндар.** *Пахаванне Стралы* — Заключнае пасвялікоднае ваджэнне веснавых карагодаў як ахоўна-магічнае дзеянне ад самай застрашальнай для земляроба стыхіі — маланкі. Сярод безлічы такіх карагодаў ёсць сакральны:

*Як пушчу стралу да й па ўсём сялу,*
*Ох і вой люлі, да й па ўсём ся... у-у-у!*
*Не чапай, страла, добра молайца,*
*Ох і вой люлі, добра мола... у-у-у!*
*Па тым молайцу некаму плакаці,*
*Ох і вой люлі, некаму пла... у-у-у!*

Гэта быў ужо саракавы дзень ваджэння карагодаў. У кожнай вёсцы на ўзмежку жытняга поля па-рознаму «хавалі Стралу»: парадыйна, з галашэннямі, закопвалі выяву маланкі — лялька, закопвалі сакральныя прадметы, каласкі збажыны і да т.п. І ўсё гэта пад маляўнічыя карагоды: «Наша вуліца шырока», «Як у нашых вароцечках шырокае возера», «На вуліцы дзеўкі гулялі», «Лука», «А з крывога канца не выведу танца», «Проці бацюшкавых варот я скакала малада» і інш. Яны ўражваюць самымі разнастайнымі, часам фантастычнымі формамі рухаў, тэатралізацыяй, музычным суправаджэннем, парадыйна-гратэскнымі вобразамі «старцаў-жабракоў», «пана з паняй» і інш. Каб засцерагчыся ад маланкі, зранку ўсе жыхары вёскі карагоднымі шэсцямі збіраліся ў цэнтры сяла і спявалі да абеду песні, а потым ішлі на край поля, дзе ўласна і хавалі «Стралу», і зноў вадзілі карагоды па свежай руні, якая, па шматлікіх сведчаннях, на другі дзень не толькі ўставала, але і паскарала рост, бо яе «ў чысты чацвер цягнулі за валасы на нябёсы». Святочны чацвер заканчваўся ўсеагульным абрадавым застоллем, на якім ужо гучалі летнія мелодыі. Абрад ваджэння і пахавання Стралы добра захаваўся і праводзіцца ў наш час у Веткаўскім раёне на Гомельшчыне.

**2** (пятніца) **Ун.** *Адданне свята Узнясення.*

**3** (субота). **Ун.** *Субота задушная.*

**Народны каляндар.** *Льняная, Уляніца* — дзень ільну. Лічылася, што калі ў гэты дзень пасеяць лён, то ён добра ўдасца. Паводле народных назіранняў яго трэба сеяць на дзесятым ад Іллі тыдні (2 жніўня): «Хто на дзесятай ад Іллі нядзелі лён пасее, — са льном, на восьмай — у васьму, на сёмай — з поля вон». Выключны карагод гэтага дня («Ох, сеяла Уляніца лянок») адлюстроўвае ўсе этапы вырабу нашага найлепшага адзення — льнянога.

**4** (нядзеля). **Кат.**; **Ун.** *Зыход Святога Духа, Зялёныя Святкі, Сёмуха.*

**5** (панядзелак) **Ун.** *Панядзелак Святога Духа.*

**Прав.** *Дзень памяці Ефрасінні Полацкай.*

**7** (серада). **Народны каляндар.** *Ян,* прысвятак пчаляроў. («Кармі мяне да Яна — зраблю з цябе пана», «Калі рой выйдзе перад Янам, будзе пчаляр панам»).

**8** (чацвер). **Народны каляндар.** *Сёмуха, Сямік, Зелянец.* У адпа-веднасці з народнай традыцыяй — пачатак святкавання перыяду найбольшага росквіту расліннасці, які часам называюць «маем». Прыпадае на сёмы тыдзень пасля Вялікадня ў чацвер. Разам з наступнымі святамі Тройцы, Куста і Русалкі сімвалізуе найбольшы росквіт усёй прыроды пад назвай «Зялёныя Святкі». Гэта сапраўдны гімн Маціпрыродзе, калі яна ў самай моцнай магічнай сіле і сваімі гаючымі лекамі ўздымае чалавека да раднаснага светаадчування. Нездарма да «Зялёных Святкаў» прыстасавана першародная трыяда сусвету пад назвай Тройцы, першапачатковыя прыродныя асновы якой асэнсаваны яшчэ ў індыйскіх Ведах, так сугучныя старажытнай аснове беларускай культуры: Сонца (Бог-бацька), Мая (Зямля-маці) і Агонь (Сын, які стане галоўным у купальскай абраднасці). На Сёмуху збіралі травы, упрыгожвалі пабудовы зелянінай, сцежку да дома абстаўлялі бярозкамі, падлогу ў хаце ўсцілалі «панамі» (аерам), плялі вянкі і пускалі на ваду, праз сплецены з клёну вянок даставалі з калодзежа ваду і палівалі ёю грушы, яблыні і вішні. Перанесці біяэнергію раслін, зёлкаў, якія збіралі менавіта ў гэты час, на людзей, пазбавіць іх ад невылечных хвароб, даць ім моц, сілу і здароўе перад самай цяжкай працай — жнівом — такі магічны сэнс усіх «Зялёных Святкаў».

Сёмушныя карагоды, песні пачыналі ў чысты чацвер. Дзяўчаты ішлі ў поле «завіваць вянкі на ўсе святкі» з галінак бярозы, якая сімвалізуе дзявочую цноту, спявалі:

*Пойдзем, дзевачкі, мы ў гай гуляць,*
*Да вянкі заўём, да на ўсе святкі,*
*На духаўскія, на пятроўскія,*
*Ой, што дух-тройца, то дзеўкам ізбор.*
*Ой, не радуйся ты, зялёны дуб,*
*Не к табе ідзём мы вянкі віці,*
*Ой, узрадуйся, бела бяроза,*
*Мы к табе ідзём вянкі завіваць.*

У лесе дзяўчаты «куміліся» (пацалунак пад аркай звязаных вярхамі бярозак значыў быць вернай адна другой да наступнай Сёмухі), пяклі і елі абрадавую яечню, варажылі на лёс, вадзілі карагоды «май» (адсюль пазнейшыя маёўкі ў лесе), пелі сёмушныя песні («Вы, кумачкі-галубачкі, куміцеся, любіцеся», «Выхвалялася бяроза», «А мы вяночкі завілі» і інш.). Падобным чынам «куміліся» і на Пятра, але ўжо разам з хлопцамі. Сямік — водгук старажытных жаночых калектыўных абрадаў матрыярхата, татэмам якіх была бярозка, пераўтварыўся ў наш час у прыгожую гульню, забаву, карагод, маёўку. «Кумленне» захоўвае сэнс дзявочых ініцыяцый — прыёму дзяўчат у род, што сведчыла аб іх сталасці і рабіла паўнапраўнымі членамі роду. Прыказка «Зелянец — вясны канец» засведчыла месца «Зялёных Святкаў» як пары года.

**10** (субота). **Ун.** *Адданне свята Сёмухі.*

**Прав.** *Траецкая памінальная субота.*

**Народны каляндар.** *Духаўскія, Траецкія ці Стаўроўскія дзяды, Сёмка, Духаў дзень,* калі, як верылі людзі, адзін раз на год нябожчыкі-продкі маглі выходзіць з магіл на белы свет, каб упэўніцца, як вядуць парадак нашчадкі.

**11** (нядзеля). **Прав.** *Дзень святой Тройцы. Пяцідзесятніца (Сёмуха).* Свята сашэсця Святога Духа на Апосталаў.

**Ун.** *Нядзеля ўсіх святых. Дзень апосталаў Баўтрамея і Варнавы.*

**Народны каляндар.** *Тройца, Клечанне* — пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня як водгук культу расліннасці. Упрыгожвалі зелянінай будынкі. Трыяда-Тройца ляжыць у аснове беларускага святочнага календара, дзе Каляда-Вялікдзень-Купала адпавядаюць абуджэнню, найвышэйшаму росквіту і пачатку адмірання расліннасці прыроды.

**12** (панядзелак). **Прав.** *Дзень святога Духа.*

**Ун.** *Пачатак Пятровага посту.*

**Народны каляндар.** *Ваджэнне Куста* — рэгіянальная разнавіднасць Тройцы на Цэнтральным Палессі, гістарычнай Піншчыне, якое захавалася да нашых дзён і якое, часам, сумяшчаецца з Тройцай. Самую прыгожую дзяўчыну ўбіралі ў зеляніну і вадзілі ад хаты да хаты ў вёсцы з песняй:

*Ой, мы былі ў вялікім лесе,*
*Збілі Куста з зялёнага клёну*
*Да й прывялі Куста да слаўнага двору.*
*Выйдзі ж, пане, з новага пакоя,*
*А нашай Кусце не стоем стаяці,*
*Трэба ёй, трэба піці-есці даці,*
*Трэба той Кусце крынічнай вадзічкі,*
*Трэба ёй, трэба панчошкі, чаравічкі.*
*Ой, дзень добры, наш пане, да хаты,*
*Ой, ці вяліш нашай Кусце стаяці,*
*Бочку мядочку прыпявальнічкам даці,*
*Нам, маладзенькім, на ганачку*
*пагуляці.*

Вадзіла Куст толькі дзявоцкае «войска». Паміж ім і гаспадаром адбываліся імправізаваныя дыялогі, пабудаваныя на магічных прыгаворах і прыказках, часам жартоўна-іранічных, колкіх, але добразычлівых. Старажытную аснову куставых і траецкіх песень складае імкненне вызваць рост раслін («Дзе Куста ходзіць, — там жытачка родзіць») магічным словам-песняй, надзяліць чалавека шчаслівым асабістым лёсам, доляй, дабрабытам.

З гэтага дня на Паўднёва-Усходнім Палессі (гістарычнай Кіеўскай Русі) пачынаўся Русальны, Граны тыдзень, калі вакол прыгожа ўбранай зелянінай дзяўчынырусалкі вадзілі карагоды, спявалі русальныя песні:

*На Граной нядзелі русалкі сядзелі,*
*Рана-ранюсенька русалкі сядзелі.*
*Русалкі сядзелі, на дзевак глядзелі:*
*— Дзевачкі-сястрыцы, падайце*
*вадзіцы,*
*Падайце вадзіцы з глыбокай крыніцы.*
*З глыбокай крыніцы, да з-пад той*
*вярбіцы*
*Падайце вадзіцы — душу прычасціці.*
*Душа прычасціцца — жыццё*
*вараціцца.*
*Тады будзем з вамі краскі сабіраці,*
*Краскі сабіраці — песенькі спяваці.*

Якая нясцерпная мара аб уваскрэсенні і ў якой прыгожай песенна-карагоднай форме?

У апошні дзень тыдня, на Розыгры, хлопцы лавілі русалку на могілках, дзе яна знаходзілася ў той момант, калі дзяўчаты вешалі вяночкі на крыжы сваім дзядам-нябожчыкам. Яе вялі ў жыта, а дзяўчаты спявалі:

*Правяду я русалачку да бору,*
*А сама вярнуся дадому.*
*Каб русалачка па жыце не хадзіла,*
*Ды нашага жыцечка не ламіла,*
*Наша жыцечка таненька,*
*А ў каласочку таўсценька.*

У жыце дзяўчаты з русалкі абрывалі зеляніну і, не аглядаючыся, беглі дахаты і кідалі зеляніну (сімвал урадлівасці) у агароды, а голая русалка ўцякала ў лес.

**13** (аўторак). **Кат.** *Дзень святога Антонія.*

**15** (чацвер). **Кат.** *Свята Божага Цела.*

**17** (субота). **Прав.** *Адданне свята Пяцідзесятніцы.*

**18** (нядзеля). **Прав.** *Загавіны на Пятроў пост.*

**19** (панядзелак). **Прав.** *Пачатак Пятровага посту.*

**23** (пятніца) **Кат.** *Свята Найсвяцейшага Сэрца пана Езуса.*

**24** (субота) **Кат. Ун.** *Нараджэнне Яна Хрысціцеля, Святы Ян, Купала.*

**Прав.** *Дзень апосталаў Варфаламея і Варнавы.*

**25** (нядзеля) **Прав.** Моляцца аб захаванні ад раптоўнай смерці.

**26** (панядзелак). **Народны каляндар.** *Акуліна-грачышніца, Акуліна-задзяры хвост.* Сеялі грэчку. Пара аваднёў, калі каровы бегалі, задраўшы хвасты, — «зыкавалі».

**29** (чацвер). **Кат.Ун.** *Дзень апосталаў Пятра і Паўла.*

**Вядуць:**
**народны каляндар — Васіль ЛІЦВІНКА;**
**царкоўны каляндар — Ірына КРЭНЬ.**

## Прэса-кулямеса

### А ніткі пры чым?

«Многае былымі **складальніткамі** наўмысна зрусіфікаванае».

*(«Звязда», 11.04.1995 г.)*

### Ад жанчыны да навукі — адна літара

«Сказ выкраслілі, каб ніякага сумнення наконт нацыянальнасці першай у свеце **касманаўткі** не было».

*(«Звязда», 21.04.1995 г.)*

А вось з практыкі, без називання крыніцы:
Таварыства паляўнічых і **рабаловаў**.
**Інструктаваная** шкатулка *(інкруставаная)*.

**В.Б.**

## Афарызмы

**Ілія МАРКАВІЧ**

Даказана, што кантыненты пасоўваюцца. Калісьці мы былі часткай Еўропы.

Добра быць першым, калі другі за табою гоніцца.

Толькі аглушальныя апладысменты гарантуюць свабоду слова.

Улада, якую народ не разумее, мусіць больш займацца перавыхаваннем народа.

Лінія — сукупнасць пунктаў парадку дня.

Калі час — гэта грошы, я ведаю дакладны час.

Нам бы дайсці да ісціны. А далей неістотна.

Не па-людску, але з годнасцю.

Вашыя заўвагі да месца. Дзе былі, там і засталіся.

Ні дня без радка — ні ночы без стрэлу.

Вораг прыстойнейшы за нас. Ён нам яшчэ не здрадзіў.

Дасягнутыя вынікі іх стымулююць, каб рабілі яшчэ большыя глупствы.

У моры праблемаў найлепш пачуваюцца акулы.

Усё падзялілі — і нікому нічога не дасталося.

Гістарычная дыстанцыя: учора — адно, сёння — другое.

Памянялі ролі, ды захавалі той самы рэпертуар.

Слава б'е ў галаву. Адчувае, дзе супраціўленне найменшае.

Кавалі мы брацтва і адзінства, аж пакуль дарэшты не склялалі.

Узняў руку на сябе. Галасаваў за іх.

Добра быць сумленным, калі няма іншага выбару.

Неапраўдана яго адсунулі, а трэба было апраўдана.

Правадыр з той пары, як страціў компас, карыстаецца кіем.

Ці ж трымацца свайго, калі ягонае больш цэніцца?

Чалавек псуецца незалежна ад гарантыйных тэрмінаў.

**Пераклаў з сербскай**
**Іван ЧАРОТА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 2092

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5905 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 21.05.1995 г. у 15 гадзін.